# МАЛАДЫ АРАТЫ

Часопіс
сялянскай моладзі

Орган ЦКЛКСМБ





№ 13

У. І. Ленін.

1925 г.



# Аб правядзеньні Кастрычніка.

Надыходзіць гадавіна Кастрычнікавае рэволюцыі. Трэба рыхтавацца да яе правядзеньня. Уся задача выяўляецца ў тым, каб гадавіну зрабіць сапраўды сьвятам усяго насельніцтва вёскі.

Дзеля таго, каб гэту задачу выканаць, неабходна падрыхтоўчая праца, у якую патрэбна ўцягнуць магчыма больш лік комсамольцаў, беспартыйнае моладзі, дарослых сялян, настаўніка, загадчыка хаты-чытальні, дэмобілізаваных чырвонаармейцаў і г. д.

З чаго павінна складацца падрыхтоўчая праца?

Перш за ўсё неабходна правесьці некалькі гутарак у ячэйцы, у хаце-чытальні, на сходзе моладзі, у школе аб значэньні надыходзячага сьвята і выпрацаваць плян сьвяткаваньня ў сваёй вёсцы. Гэта ўсё для таго, каб стварыць настрой зацікаўленасьці сьвятам, каб уся вёска рыхтавалася да яго правядзеньня. Стварыўшы такі настрой аб надыходзячай гадавіне, ячэйка павінна ўзяцца за ўбраньне хаты-чытальні, школы, нардому, вёскі, хат (кожны комсамолец у сябе ў хаце). Зяляніна, лёзунгі, размалёваныя плякаты, упарадкаваныя куткі, сьцягі, портрэты Леніна—усё гэта патрэбна скарыстаць для ўбраньня вёскі.

Вывучэньне п'ескі, песень, вершаў для дэклямацыі, апавяданьняў для чытаньня павінна быць абавязкова ўкладзена ў падрыхтоўчую працу. Апошнюю трэба размеркаваць паміж комсамольцамі, беспартыйнымі хлапцамі і дзяўчатамі, піонэрамі, даўшы кожнаму пэўнае заданьне. Такім чынам будзе дасягнута большая самачыннасьць у падрыхтоўцы да сьвята. У хаце-чытальні патрэбна сабраць усю літаратуру, прысьвечаную Кастрычнікавай рэволюцыі, разьмясьціўшы яе на відным месцы, праводзячы чыткі яе для асоб, якія наведваюцца ў хату-чытальню. Таксама патрэбна загадзя намеціць таварышоў, каторым прыдзецца рабіць даклады. Дагаварыцца з шэфам аб прысылцы прадстаўнікоў на сьвята, паклапаціцца аб выпісцы газэт, юбілейных нумароў.

Асаблівую ўвагу прыдзецца зьвярнуць на выпуск насьценнай газэты, прысьвечанай сьвяту.

Да працы па яе складаньню трэба прыцягнуць магчыма большую колькасьць людзей, сама-ж газэта павінна быць напісана магчыма прыгажэй, з багатым зьместам, укладаючы ў сабе кароценькія артыкулы, успаміны, вершы, частушкі, ахвярованыя сьвяту.

### Як праводзіць сьвята.

Напярэдадні сьвята ў хаце-чытальні можна правесьці вечар. У гэты вечар трэба яскрава асьвяціць хату-чытальню, Ленінскі куток, накрыць стол чырвоным абрусом, калі такі маецца. Програму вечару можна параіць наступную:

1) Вечар пачынаецца жывым малюнкам, які складаецца шляхам пэўнага разьмяшчэньня людзей. Напрыклад, малюнак „Свабода“. Свабода стаіць на ўзвышшы, адзетая ў чырвоную кашулю, у аднэй руцэ з пылаючым факелам (дапасованая лямпа), а другую трымае над маткаю і дзіцем, якія знаходзяцца ў яе ног (ахова мацярынства і младзенства) і двумя дзяцьмі з кнігамі (вучоба).

У кроках паўтара ад „Свабоды“ разьмяшчаюцца стоячы селянін і рабочы з сярпом і молатам у руках, зложанымі накрыж, наперадзе стаяць з вінтоўкамі напагатове чырвонаармейцы.

Пры зьяўленьні малюнку хор за сцэнаю выконвае „Інтэрнацыянал“, „Беларускую марсэльезу“.

2) Далей ідзе дэклямацыя падабраных вершаў, чытка апавяданьняў, прысьвечаных Кастрычніку, успаміны ўдзельнікаў грамадзянскай вайны і г. д.

Самы дзень 7 лістапада можна правесьці такім чынам.

А гадзіне дванаццатай (пры ўмове добрай пагоды) наладжваецца дэмонстрацыя па вёсцы. Прымаюць удзел комсамольцы, піонэры, школьнікі, беспартыйная моладзь, дарослыя сяляне, дэмобілізаваныя чырвонаармейцы. Зьбіраюцца каля хаты-чытальні альбо сельсавету. Ячэйка, піонэры, школьнікі павінны несьці лёзунгі-плякаты. Пажадана прыцягнуць на дэмонстрацыю мясцовых музыкаў вёскі, якія маюць гармонікі, скрыпкі, даўшы ім заданьне ў часе ходу іграць рэволюцыйныя мотывы. Гэта прыцягне да сьвята больш сялян і моладзі. У часе ходу комсамольцы і піонэры павінны організаваць дружнае пяяньне рэволюцыйных песень.

У далейшым дэмонстрацыя павінна перайсьці ва ўрачыстае пасяджэньне, якое адбываецца ў хаце-чытальні, нардоме альбо школе з удзелам усіх партыйных і савецкіх організацый. Дзеля таго, каб прышлі сяляне, можна ім разаслаць запрашэньні. На сходзе робіцца кароткі даклад „8 год Кастрычніка“ і прывітаньні як з боку організацый, так і асобных сялян.

Увечары трэба наладзіць спэктакль, на якім ставіцца добра вывучаная п'еса 8-е лістапада—нядзеля—павінна быць таксама скарыстана для гутарак аб Кастрычніку з піонэрамі, школьнікамі і сялянамі.

Д. Ратнэр.

---

**ЮНКОРЫ! Пішыце, як вёска сьвяткавала восьмую гадавіну Кастрычнікавай Рэволюцыі, які ўдзел у гэтым прымала беспартыйная моладзь, погляды сялян на рэволюцыю, як выкарыстаны гэты нумар „Маладога Аратага“, якія ён мае недахопы і іншае.**

---

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 13 | Кастрычнік 1925 г. | Менск

**У дзень восьмай гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі нашым правадыром — старым рэволюцыянэрам — гарачае прывітаньне ад сялянскай моладзі.**



## Ленін і Кастрычнік.

У лютым м-цы 1917 году царызм быў зьнішчаны. На чале ўраду тагочаснай Расіі Састаў Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, але побач з організацыяй Савету быў організованы Часовы Ўрад, у склад якога ўвашоў шэраг капіталістых, прыхільнікаў царызму і соцыял-згоднікаў.

Стыхійна вырасьлі дзьве ўлады ў пачынаючай жыць новай Рэспубліцы—Расіі.

І завязалася паміж імі барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць.

Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў патрабаваў перадачы ўсяе ўлады ў рукі рабочых і салдат, якія ўваходзілі ў Савет. Часоваму Ўраду, які складаўся з капіталістых і соцыял-згоднікаў, як Керанскі, было нявыгадна аддаць лейцы ўлады ў рукі пролетарыяту, бо ён ведаў, што калі возьме ўладу ў свае рукі Савет, то ім прыдзецца адмовіцца ад сваіх замераў: „стварыць у Расіі парлямэнтарную і канстытуцыйную манархію“, г. зн. пакінуць усё так, як і было раней.

Бальшавікі ў сваю чаргу пастанавілі вясьці самую бязьлітасную барацьбу супроць якіх-бы то ні было замераў Часавога Ураду адбудаваць у якой-бы то ні было форме манархічны лад кіраваньня.

Вайна з немцамі, барацьба за ўладу паміж асобнымі гэнэраламі, бездарожжа, адсутнасьць продуктаў па гарадох прывялі краіну ў цяжкае напружнае становішча.

Па ўсёй краіне разьнесьліся лёзунгі: „Хлеба замірэньня і свабоды,“, „Прэч політыку наступленьня“, „Прэч конт-рэволюцыю“, „Прэч міністраў-капіталістых“, „Уся Ўлада Саветам“,—кінутыя бальшавікамі ў народныя гушчы.

Напружнае становішча, пасьлядоўча—ўпартае змаганьне Часовага Ўраду супроць Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў—прывялі да таго, што мы называем Вялікім Кастрычнікам.

Трэба было некаму шукаць выхад, каб пазбавіць Рэспубліку ад контр-рэволюцыі, стаць на абарону інтарэсаў працоўных, змагацца за справу Рэволюцыі.

І вось тут выплывае, праўда, ужо добра ўсім вядомая постаць вялікага правадыра працоўных, постаць Уладзімера Ільліча Леніна.

У верасьні ён патайна прыяжджае ў Ленінград з Фінляндыі для падрыхтоўкі паўстаньня.

Патайна ён прыяжджае таму, што Часовы Ўрад на чале з Керанскім ужо пасьпеў загнаць партыю бальшавікоў у падпольле.

І адразу У. І. Ленін становіцца на чале партыі бальшавікоў. Ведаючы, што ўлада пры тагочасных умовах можа перайсьці ў рукі рабочых і сялян выключна праз узброенае паўстаньне, ён рыхтуе яго.

„Што значыла падняць паўстаньне ў такі момант?“ піша тав. Сталін у сваёй кніжцы „Аб Леніне і Ленінізьме“, і далей адказвае: „Падняць паўстаньне ў такіх умовах, калі мільёны рабочых, сялян і салдат патрабавалі замірэньня і свабоды, калі гэнэралітэт і буржуазія падрыхтоўвалі ваенную дыктатуру ў інтарэсах „вайны да канца“, калі так званыя соцыялістычныя партыі стаялі супроць бальшавікоў, абзываючы іх нямецкімі шпігамі, гэта значыла паставіць усё на карту. Аднак, Ленін не пабаяўся гэтага, бо ён ведаў, што паўстаньне атрымае перамогу, што паўстаньне



ў Расіі падрыхтуе канец імпэрыялістычнай вайны, што паўстаньне ў Расіі ўскалыхне змучаныя гушчы працоўных Захаду, што паўстаньне ў Расіі аберне вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую, што паўстаньне дасьць Рэспубліку Саветаў, што Рэспубліка Саветаў стане грунтам рэволюцыйнага руху ва ўсім сьвеце.

І рэволюцыйны прадугляд У. І. Леніна збыўся.

25 кастрычніка 1917 г. праз паўстаньне, організаванае бальшавікамі на чале з У. І. Ленінным, Часовы Ўрад быў апавешчаны нізрынутым, і ўся ўлада перашла ў рукі рабочых і сялян — Саветам Рабочых, Сялянскіх і Салдацкіх Дэпутатаў".


1917 год Чырвонагвардзейцы.

Вось што казаў пра 25 кастрычніка Ул. Ін. Ленін на другі дзень у сваёй прамове:

„Рабочая і сялянская рэволюцыя, пра неабходнасьць якой казалі бальшавікі, збылася.

Якую значнасьць мае гэтая рабочая і сялянская рэволюцыя?

Перш за ўсё значнасьць гэтага перавароту зьяўляецца ў тым, што ў нас будзе Савецкі Ўрад, наш уласны орган улады без якога-б то ні было ўдзелу буржуазіі. Прыгнечаныя масы самі будуюць уладу. Дашчэнту зьнішчаны стары дзяржаўны апарат, і будзе пабудаваны новы апарат кіраўніцтва з савецкіх організацый.

Ад гэтых часоў надыходзіць новая старонка ў гісторыі Расіі, і гэтая трэцяя Расійская Рэволюцыя павінна ўрэшце прывесьці да перамогі социялізму.

...У асяродку Расіі большасьць сялянства сказала: досыць гульні з капіталістымі, мы пойдзем з рабочымі. Мы здабудзем давер'е з боку сялянства адным дэкрэтам, які зьнішчыць панскую ўласнасьць. Сяляне зразумеюць, што толькі ў саюзе з рабочымі збавеньне сялянства. Мы наладзім сапраўдны рабочы контроль над вытворчасьцю. Цяпер мы навучыліся працаваць дружна. Пра гэта сьведчыць рэволюцыя, якая толькі што адбылася. У нас маецца такая сіла масавай організацыі, якая пераможа ўсё і давядзе пролетарыят да сусьветнай рэволюцыі.

У Расіі мы павінны зараз-жа заняцца пабудовай социялістычнай дзяржавы".

І Ленін адразу стаў на чале абароны заваёў Кастрычніка.

Вось, у прыведзенай намі прамове У. І. Леніна ўглядаем цэлую спадчыну, цэлы плян працы, які праводзіўся ў жыцьцё на працягу васьмі год існаваньня Рэспублікі і будзе праводзіцца да часоў перамогі социялізму Ленінскай партыяй.

Для справы Рэволюцыі патрэбна было войска і ўразжа пасьля рэволюцыі, на другі дзень, 26 кастрычніка, Другі Зьезд Саветаў прымае дэкрэт аб замірэньні з немцамі, апрацованы т. Ленінным. Праз некаторы час замірэньне адбылося. Згаладалыя салдаты пашлі з фронту будаваць новае ў сваіх вёсках і гарадох.

Зараз-жа выданьнем дэкрэту аб утварэньні чырвонай гвардыі Рэволюцыя атрымлівае для абароны заваёў Кастрычніка салдат, адпушчаных у зьвязку з замірэньнем.

Ідзе грамадзянская вайна. Гэнэралы ня так лёгка аддаюць сябе ў рукі Вялікай Рэволюцыі. На працягу трох год змагаецца расійскі пролетарыят з т. Ленінным на чале з контр-рэволюцыйнымі, монархічнымі выступленьнямі гэнэралаў Духоніна, Калчака, Юдзеніча, Дзянікіна, Сямёнава, Пятлюры, Мамантава. і др., ідзе ўпартая барацьба з белапалякамі і падасланымі на іхныя грошы на Беларусь Балаховічам, Савінкавым і інш., на поўначы—з ангельцамі і французамі і г. д. і г. д.

Аднак, упартая барацьба працоўных, ідэёвае кіраваньне краінай Комуністычнай Ленінскай партыі—абараняе заваёвы Кастрычніка.

Голад, найстрашнейшы вораг Рэволюцыі, вісьне над краінай... Гінуць мільёны людзей... Рэволюцыя перамагае і гэта.

Бязладзьдзе транспорту, адсудтнасьць вытворчасьці нашых фабрык і заводаў прыводзіць краіну да абнішчэньня... Рэволюцыя перамагае і гэта.

Ды яшчэ вельмі і вельмі шмат над чым атрымлівае перамогу Вялікая Рэволюцыя Кастрычніка.

А цяпер?

Прызнаньне Рэспублікі Саветаў капіталістымі, экономічны ўзрост нашае краіны, росквіт культуры загнаных раней нацый, факт існаваньня самастойных рэспублік Саветаў, як Беларуская, Украінская, Закаўкаская і інш., факт існаваньня аўтономных рэспублік менш значных народаў з іх культурай і ўкладам жыцьця і яшчэ і яшчэ неперанічаных фактаў—гэта заваёвы Кастрычніка.

Ёсьць і страты.

Найвялікшая страта Кастрычніка — гэта сьмерць яго організатара, правадыра працоўных усяго сьвету Уладзімера Ільліча Леніна.

Імя т. Леніна—гэта Кастрычнік, спадчына, якую пакінуў Ленін працоўным, гэта заваёвы Кастрычніка. Вучэньне Леніна—гэта вучэньне Кастрычніка, вучэньне перамогі працоўных над сусьветным капіталам.

Ленін пакінуў нам у ліку заваёў Кастрычніка Ленінскую партыю, Ленінскі Комсамол, якія стаяць на варце абароны працоўных.

Ленін пакінуў пасьля сябе вучэньне, імя катораму Ленінізм.

Моладзі ён пакінуў вялікую спадчыну. Ёй ён пакінуў заданьне: перапрацаваць старую культуру, складзеную ўсім чалавецтвам, і будаваць сваю, пролетарскую, уцягваць усю масу рабоча-сялянскай моладзі да будаўніцтва комунізму.

Ленінскі наказ да ўсяе працоўнае моладзі: Вучыцца. І вучыцца ня толькі з кніг, а і з кніг і з жыцьця.

Наказ Леніна—наказ Кастрычніка.

**Іл. Барашка.**

# Як зрабілася Кастрычнікавая рэволюцыя.

**Сёньня, сьвяткуючы восьмую гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі, нам—сялянскай моладзі—неабходна прыпомніць, як утварылася рэволюцыя, пры якіх умовах да яе рыхтаваліся.**

У 1914 годзе пачалася вайна між галоўнымі дзяржавамі. У гэтую вайну ўцягнулася й Расія

Вялікаю бядою для рабочых і сялян была гэтая вайна.

Бальшавікі выступілі проці вайны, яны гаварылі рабочым і сялянам усіх краін, што ворагі іх—буржуазія, а не працоўны народ другіх краін.

Меншавікі-ж ува ўсіх краінах прызывалі рабочых бараніць „бацькаўшчыну".

Вайна цяжка абышлася Расіі. Былі страты на фронце, фабрыкі і заводы зачыняліся, бяднелі.

Ува многіх гарадох пачаўся голад. Буржуазія, нездаволеная такім становішчам, аднеслася з недавер'ем к ураду цара Мікалая.

Сяляне і рабочыя галадалі, салдаты на фронце мучыліся, не хацелі ваяваць, усе былі нездаволены тым, што было.

Буржуазія і рабочыя скінулі цара.

Было гэта ў месяцы лютым у 1917 годзе.

З пачатку рэволюцыі буржуазія стала якбы ў хаўрусе з рабочымі.

Але толькі спачатку: скінулі цара, і ўладу прыбрала к сваім рукам буржуазія—„Часовы Урад" з буржуазных міністраў. На чале ўраду стаў Керанскі.

Разам з Часовым Урадам па гарадох сталі організоўвацца „саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў". У гэтыя саветы ўваходзілі рабочыя, сяляне і салдаты.

У красавіку месяцы з заграніцы прыехаў т. Ленін. Павялічвалася жаданьне рабочых выступіць супроць ураду Керанскага. Бальшавікі звалі рабочых падрыхтавацца к таму, каб узяць уладу ў свае рукі.

Тав. Ленін хаваўся ў Фінляндыі і адтуль кіраваў падрыхтоўкаю да выступленьня.

А на фронце справа горшала, немцы бралі верх. Салдаты ўцякалі з фронту, голад павялічваўся. К бальшавікам пераходзіла ўсё больш і больш салдат.

Пасьля 25 кастрычніка ў Ленінградзе рабочыя і сяляне выступілі, накіраваліся да Зімовага Дварца, дзе знаходзіўся ўрад Керанскага, і пачалі страляць.

Керанскі ўцёк, улада перашла ў рукі саветаў.

У Ленінградзе рабочыя лёгка захвацілі ўладу. У Маскве барацьба ішла цэлы тыдзень. 7-га лістапада (па новаму стылю) сяляне і рабочыя ўсёй Расіі ўзялі ўладу ў свае рукі.

# Ленінскі Комсамол Беларусі к 8-ай гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі.

Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць рабоча-сялянскай моладзі выхоўваць з сябе стойкіх барацьбітоў за новае жыцьцё. З кожным днём рабоча-сялянская моладзь узмацняе заваёвы Кастрычніка. Прашоў толькі год, а колькі дасягненьняў, колькі перамог! У лістападзе 1924 г. наш ЛКСМБ налічваў у сваіх шэрагах 19.000 сяброў і кандыдатаў. Мінулы год быў годам буйнага ўзросту комсамольскіх шэрагаў. Да 8-й гадавіны Комсамол узрос у два разы. Рабочая моладзь на 65% уступіла ў шэрагі Ленінскага Комсамолу. Комсамол глыбока пусьціў свае карэньні і ў вёсцы. У нас зараз больш 50% сялянскай моладзі ахоплена комсамолам. У коопэрацыі, сельсавеце, комітэце ўзаемадапамогі, у хаце-чытальні—усюды нашы комсамольцы выконваюць цяжкую задачу эканомічнага і культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. За гэты год Комсамол перадаў у шэрагі компартыі звыш тысячы сваіх сяброў. Вялікія дасягненьні, але яшчэ і вялізарныя задачы стаяць перад намі ў далейшым. Наш Комсамол і далей будзе расьці за кошт рабоча-сялянскай моладзі. І далей будзе уцягвацца ў ЛКСМБ лепшая моладзь з іншых праслойкаў. Але галоўная задача сёнешняга дню—ленінскае выхаваньне. Кожны комсамолец павінен быць політычна выхаваным.

Насіць назву ленінец трэба ня толькі на словах, але і на справе. Трэба ведаць Ленінскую вучобу, Ленінскія заветы і праводзіць іх у жыцьцё. Цяпер, у сувязі з тым, што расьце дробная буржуазія ў горадзе і на вёсцы, растуць чужародныя дробна-буржуазныя ўплыва—задача Комсамолу не паддацца гэтым уплывам, гэтым настроям. Гарантыяй гэтаму зьяўляецца кіраўніцтва партыі нашым Комсамолам. Усёй нашай штодзённай працай павінна кіравацць КПБ. Самы нязначны адрыў ад парткіраўніцтва пагражае тым, што мы можам зыйсьці з Ленінскага шляху. Трэба дабіцца таго, каб кожны комсамолец, у асаблівасьці на вёсцы, зразумеў усю ролю рабочае клясы, як кіраўніка працоўных, на чале якой стаіць КПБ.

Мы павінны і далей крок за крокам узмацняць нашу вёску, паднімаючы культурны ўзровень сялянства. Мы таксама павінны памятаць і аб нашых закардонных братох, якія вядуць барацьбу супроць польскіх паноў, падаць ім руку братэрскай дапамогі. У дзень 8-ае гадавіны Кастрычнікаўскай Рэволюцыі паглядзім на шлях, які прашлі, падлічым сілы, намецім задачы і да новых дасягненьняў, да новых перамог пад кіраўніцтвам слаўнай Ленінскай партыі! Вытрыманасьць, згуртаванасьць, Ленінская дысцыпліна—моц перамогі. **М. З.**

---

# Што дала Кастрычнікавая рэволюцыя нацыянальнасьцям.

У царскага ўраду быў лёзунг: „Самодержавие, православие и народность“.

Дзьве трэці гэтага лёзунгу былі накіраваны супроць нацыянальнасьцяй старой Расіі, бо праваслаўе і народнасьць патрэбны былі цару для таго, каб дзяліць масы на часткі,—натравіць народ адзін супроць другога, аслабіць іх, каб удзяржаць самаўладзтва.

Грамада, у якой жыве адна кляса на эксплёатацыі чужой працы, будзе заўсёды эксплёатаваць ня толькі рабочых і сялян, але таксама і слабыя нацыянальнасьці, каб нажыцца за іх кошт. Нацыянальны ўціск—гэта адна з форм нажывы старога міру.

Нацыянальнасьці Расіі яшчэ не забыліся тых жудасных зьдзекаў, якія рабіліся над імі. Цяпер усё гэта здаецца нам далёкім мінулым, але ўсё-такі 8 гадоў мала, каб згладзіць тое, што рабілася на працягу вякоў.

Лютаўская рэволюцыя ня мела магчымасьці даць народам волю, бо тады ўлада перашла ад паноў у рукі капіталістых. У радМілюкова і Керанскага быў яшчэ за захват турэцкай сталіцы Канстантынопаля; вядома, нельга было думаць аб вызваленьні нацыянальнасьцяй унутры Расіі, бо гэты ўрад быў прасякнуты імпэрыялістычнымі імкненьнямі. Політыка Кераншчыны ўзбударажыла супроць яе нацыянальнасьці Расіі.

Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя, якая заклікала да ўлады саміх працоўных, змагла канчаткова зьмяніць становішча нацыянальнасьцяй. Савецкая дзяржава імкнецца к знішчэньню эксплёатацыі чалавека чалавекам і да ўтварэньня роўнасьці паміж нацыямі. Яна зацікаўлена ў зьнішчэньні панаваньня моцных нацый над слабымі.

Нам удалося пабудаваць савецкую дзяржаву на прасторы адней шостай часткі зямной кулі, дзе жыве некалькі дзесяткаў нацыянальнасьцяй і больш соткі розных плямён. Утварыліся сяброўскія формы нацыянальнага агульнага жыцьця.

Зусім вышлі ў край далёкага мінулага такія здарэньні, як татара-армянская разьня, жыдоўскія пагромы, бойкі паміж усходнімі плямёнамі. На аснове савецкае ўлады народы знашлі агульную мову паміж сабою, ахвяроўваючы ўсю сваю энэргію на адбудаваньне новага жыцьця на пачатках сучаснай роўнасьці і братэрства.

Культурнае жыцьцё нацыянальнасьцяй робіць вялізарныя крокі наперад.

Зьяўляецца новая літаратура, цэлы шэраг новых сіл—будаўнікоў, асьветнікаў і кіраўнікоў.

Плады Кастрычнікавай рэволюцыі відаць ува ўсіх галінах жыцьця абуджаных народаў.

**С. Дзіманштейн.**

# ВЕРШЫ

## Восьмая...

Годы, што коні, чырвоныя —
Праімчаліся восем вёрст,—
І пыл на дарозе загонамі
Запыліў белаватую горасьць.

Ня туманіцца вёска кудлатая
Перад заўтрашнім з боязьні днём.
Комсамол,—хоць кашуля й палатана,
Карманьёлу жарыць агнём.

А на прызьбе ў часіну вольную
Нам старыя і то гаманяць,
Як-бы з вёскі свае і вакольнае
І лучыну і «дзеда» прагнаць.

І такое зьвініць па-над хатамі
Слова мужыцкае—жар,
Што аж сэрца й гадамі памятае
У душы распаляе пажар.

Ну, дык дзе-ж, ну, каму-ж чырвоныя
Кастрычніка годы стрымаць.
Праімчаліся восем і ня зморaны,
Праімчацца й нязьлічану раць.

А. Бабарэка.

## Кастрычнік.

Добра помню я тое сягоньня;
Буду помніць яго заўсягды,—
Як Кастрычнік ў кашулі чырвонай,
Бы вясковы хлапец малады,

З агнявою усьмешкай на твары,
А з вачамі—агністасьцю зор—
Разганяць вышаў чорныя хмары,
Што ўсьцілалі вялікі прастор.

Добра помню я ноч ў Ленінградзе—
Ён тады быў яшчэ Петраград,—
Калі вышаў к яму у спагадзе
Комуністых вялікі атрад.

Затрасьліся старыя упоры,
Захістаўся трухлеючы лад,
Бліскавіцаў зазьзялі узоры,
Панясьліся і ўперад і ўзад.

Падаў вораг і падалі нашы,
Бушавала у страху Нява,
Кастрычнікоўцы-ж дзяржаўным маршам
Адчаканьвалі тахты—„раз-два!“

Петрапаўлаўкі здань—сілуэты—
Углядаліся супроць ў цемнату
І, пускаючы стрэлы-ракеты,
Заклікалі стаяць на пасту.

І цягнулася бойка да раньня,
Наганяючы ворагам страх,
А як толькі настала сьвітаньне—
Перамогі пачулась: Ура!

* * *

Менск увабраўся у сьцягі,
Ў беларускую ткань-касьнікі...
Поўніцца сэрца адвагай,
Глянуўшы ўвыш на штыкі.

Што гэта? Ворага раці
Зноў мо' на бойку завуць?
—Ворагі поўны пракляцьця,
Ворагі сьпяць наяву.

Гэта агляд нашай сілы,
Гэта падлікі здабыч!
Вораг схіліўся пахіла
Там, дзе схіляліcь рабы...

Сёньня наш кліч з Беларусі,
Гэтай краіны—мяжы—
Тых здрыгануцца прымусіць,
Хто адабраў рубяжы,

Хто занядбаў нашы плёны,
Хто наша цела абцяў!
Чуем, браты, вашы стогны
Разам з патрэбай жыцьця;

Чуем і верым: збавеньне
Хутка сягне нацянькі.
Праўды і волі насеньне—
Справа працоўнай рукі!

* * *

Не хлапец ужо Кастрычнік, а сталы:
Яму сёньня восем год.
Які спрытны, які ён удалы:
Не дарма пəражыў шмат прыгод.

На кані перамогі ён рвецца
Усё болей ў далёкі абшар,
Калі трэба, маланкай сьмяецца,
Распаляючы новы пажар;

Пераскаквае рытвіны, межы,
Яго поле—вялікі прасьцяг,
І на вышкі, высокія вежы
Узьнімае чырвоны ён сьцяг.

Ад Нявы ён заедзе за Сэну,
Ад Уралу заедзе за Ніл,
Бо чакаюць і там перамены,
І гараць там паўстаньня агні.

СССР, расквітнеўшы прыгожа,
Ўсім пакажа чырвоны свой цьвет,
І Кастрычніка дух пераможа
Ўвесь вялікі зьняволены сьвет.

А. Гурло.



Пад напевамі ветраў асеньніх,
Над прасьцягам разложыстых гоняй,
Карнаваліць жыцьцём вызваленьня
Векапомны Кастрычнік сягоньня.

І на вогнішчы буры віхрыстай,
На кургане мінуўшчыны дзікай,
Беларусь!..
Над табой агнявіста
Новай квадры настаў маладзік.

Яго погляды—
далі люстраныя;
Волі ўзмах—
сакаліны палёт;
Яго грудзі—
уздым акіяну
Вольнай песьняй вітаюць Заход.

Чую—
Там падымаецца лёскат,
Разьліваецца полем аўсяным,—
Гэта звоніць кужэльная вёска,
Да Кастрычніка туліцца ўся.

І глядзіць туды вокам арліным,
Каб узьняцца на крыльлях вясеньніх,
Дзе гудуць гулказвонна машыны
Над краінай бясьсьмертнага Леніна.

Эх!..
Бязьмежнае ты расьсьвітаньне!..
Сьмела шырыцца з песьняю шаг,
Калі поўна сусьветным паўстаньнем
Маладой Беларусі душа.

Вольных песень стыхійныя хвалі
Вірабурна прывольлем буяняць;
І нясуць у замежныя далі
Кліч прыгнечаным—
кліч да змаганьня.

Прыдзе час...
І пад сьцягам чырвоным
Ашлюбуецца з Нёманам Вісла.
І свабодаю Вільня зазвоніць—
Хай панурыя хмары ня віснуць!..

Пад напевамі ветраў асеньніх,
Над прасторам квітнеючых гоняй
Карнаваліць жыцьцём вызваленьня
Векапомны Кастрычнік сягоньня.



Была восень...
Пахмурысты дзень...
Буйны вецер у шыбы званіў.
І балючае сэрца з грудзей
Вырывалася край бараніць.

Кроў струменіла ў жылах тады,
Аб паўстаньні шумела гальлё;
А ў далі кучаравіўся дым,
Расплываўся ў крывавых палёх.

А ў палёх—
Ды магілы, крыжы.
Па магілах і косьці людзей,
Там арол белакрылы кружыў,
І з высотаў на косьці глядзеў.

Толькі чуе—
Ў прасторы зьвініць...
А туман сінім морам кругом...

. . . . . . . . . .

Белакрылы арол з вышыні
Апусьціўся з падбітым крылом.

Была восень...
Пахмурысты дзень...
Вецер стальлю у шыбы званіў,—
Як балючае сэрца з грудзей
Вырывалася край бараніць.



Дзе грымелі гарматы
І дым
Расьсьцілаўся ў шырокіх палёх,—
Там сягоньня узрост малады
Ад мяжы да мяжы паразьлёг.

Ой, калосяць паўстаньнем палі,
Упіваюцца сьвежай расой,
Каб паўстаньнем сусьвет запаліць
І разьвеяць мінулага сон.

Ўсё гусьцей
і гусьцей
і гусьцей
Сее сьлёзы туман на палі.
Ў сэрцы новая помста расьце—
Завірухай сусьвет запаліць.

Дзе грымелі гарматы
І дым,
Дым купаўся ў крывавых палёх,—
Там сягоньня узрост малады
Ад мяжы да мяжы паразьлёг.

**Паўлюк Трус.**

# ВЁСКА РАНЕЙ І ЦЯПЕР.

## Наша вёска сёньня.

*(В. Нізок, Менскай акругі).*

З надворнага боку яна тая-ж самая, якой была 10-15 гадоў таму назад, калі ня лічыць дзесятка новых жоўценькіх хатак, пабудаваных на „гарадзкі лад“ з кухняй і „заляй“. Тая-ж самая гразкая вуліца, што была мабыць і пры самым яе заснаваньні, калі ня лічыць тротуару,—вялікага дасягненьня нашае ўпартае барацьбы моладзі з старым. Але заглянеце да нас у сьвяточны вечар і вы пабачыце шмат чаго, што зьяўляецца яе ўнутраным бокам, што зьяўляецца адбіткам вялікага Кастрычніка. Тут вы пабачыце піонэраў, якія стройнымі—шэрагамі пад бой барабана і песьню: „жура-жура-журавель“ ідуць у клюб на зьвеньнявыя заняткі. Пабачыце комсамольцаў за чыткай газэт, вясковую беспартыйную моладзь, якая сумесна з комсамольцамі рыхтуе спэктакль да дню Кастрычніка. Ужо даўно няма таго падзелу сярод моладзі, які меў месца ў нас раней на асаблівыя групы, якія вялі асабістае жыцьцё

А вось дэлегаткі сьпяшаюцца пасьля вячэры пагутарыць аб тым, як-бы дастаць льнямялку, бо ўжо абрыдла траціць шмат часу на тое, каб церці лён церніцаю, а таксама паслухаць, што робіцца на сьвеце. Жартуюць мужчыны, гледзячы на бабскія сходы: „Бач ты, ці было гэта калі, каб бабы абгаварвалі свае справы... вось, браце, дажыліся!..“

На полі ў нас ужо ня ўбачыш трохналёўкі. Загінула яна назаўсёды па пастанове сялянскага сходу яшчэ ў прошлым годзе. Сэрадэля, канюшына, лубін амаль што ёсьць ні ў кожнага гаспадара. Затое-ж і жыта расьце добра і скаціне корму хватае. Калі раней можна было бачыць на палёх значную колькасьць яравін, альбо хвайнікоў, то яны паступова зьнішчаюцца.

У гарадох зьявіўся турнэпс. Асабліва ў гэтых адносінах дасяг добрых вынікаў адзін комсамолец, які павёў агарод па-навуковаму, і мае буракі вагой па 15-16 фунтаў, а „бяда адна—зямлі малавата, а то-б даўно перашлі на пасёлкі“ — кажуць сяляне, хаця ўжо і зроблена пастанова аб выхадзе на пасёлкі.

Маецца ў нас і малочная арцель, якая ў прошлым годзе на с-г. выстаўцы атрымала пахвальны ліст за добраякасныя галяндзкія сыры.

За сярнічкамі, мылам ня трэба ехаць у мястэчка, бо ёсьць сваё коопэр. аддзяленьне. З 137 гаспадароў больш як 90 коопэрыравана.

Загадчыкам аддзелу комсамолец. Комсамольцаў можна ўбачыць і ў сельсавеце і ў касе ўзаемадапамогі; яны-ж амаль напалову складаюць пажарную дружыну, якая бароніць вёску ад чырвонага пеўня.

**Сакавец.**

## Была восень.

*(Малюнак).*

Пырскала сонца, але ня грэла. Жаўцелі журботаю клёны. Лістотаю ўсьцілаўся абшар. Ляцелі ў вырай гусі. Па гумнах ляскалі цапы.

Была восень.

Дзядзька Антось вышаў на вуліцу...

Чарнелі гароды. Плюскатала сінявою рэчка.

А ўсё—нейкая маркота.

Думкі—маркота.

Развагі—журба.

Толькі імкненьні...

Да зямлі прытуліліся хаткі, а паміж — ветлаю ўсьмешкаю будынак з вывескаю:

КЛЮБ
і
ХАТА-ЧЫТАЛЬНЯ.

Там весела.
Песьні...
сьмех...
радасьць...
і няма журботы.

Прабеглі дзеці; матнуліся чырваньню іх гальштукі і схаваліся ў будынку. А вось чарада хлапцоў... Зноў у будынку схаваліся.

— Дзядзька, чаго стаіш?.. Хадзем у клюб: сёньня-ж дзень Кастрычнікавае рэволюцыі, — вясёлкаю кінуў хлапец і схаваўся ў будынку.

Бясчула павярнуўся Антось: у клюб пацягло—так былі зайздросны і песьні, і сьмех, і радасьць. Зайшоў у клюб. А ўвечары вышаў. Сівізною пасьцілаўся туман. Суха шастала лісьце і... падала. Цярушыўся змрок, а навокал журба вохкая, васеньняя. Ішоў Антось, гарэлі вочы, пеніліся грудзі, хвалявалася сэрца. Асеньняя журба—мглою, а ў сэрцы—радасьць.

— Новая... вольная... восем год...—думкі калыхалі істоту.

Іскаркамі мільгацелі вокны хатак. Мільгацела думка—новая вёска.

Аглянуўся Антось —у думках упэўніўся: сьвяціліся ветла вокны клюбу, сьпявалі хлопцы, сьмяяліся дзеці.

І радасна і лёгка на сэрцы—быў Кастрычнік.

А на вуліцы журба цярушылася—была восень.

**Глебка П.**

## Жыцьцё нашай моладзі пасьля рэволюцыі.

*Блужа, Пухавіцкі р., Меншчына.*

Што рабіла раней наша моладзь? А вось што.

Амаль што ўсе хлопцы нашай вёскі хадзілі ў вёску Бабы да дзяўчат гуляць. А хлопцы Бабоў ня любілі, што чужыя хлопцы ходзяць да іх дзяўчат і дзе-небудзь у цёмным кутку рабілі засады.

Набяруць, бывала, кольля, каменьня і як ідуць хлапцы з другой вёскі—зараз-жа пачынаецца бойка.

Гэтак кожны раз.

Моладзь аднэй вёскі грызлася з моладзьдзю другой вёскі, як кот з сабакам, пакуль ня прышоў вялікі 1917 год—год Кастрычнікавай рэволюцыі.

Толькі пасьля яе моладзь патроху стала навучацца новаму жыцьцю. Стала гуртавацца ў комсамольскія ячэйкі, у розныя гурткі. Хаця, праўду сказаўшы, ня вельмі што сялянства й любіла комсамольцаў, бо яны спачатку несправядліва падыходзілі да сялянства, і таму вясковыя ячэйкі ня мелі пашаны сярод сялян.

Раней комсамольцы любілі ўтыкаць свае насы, куды не належыць. Але цяпер усё гэта зьнішчыліся, і комсамольскія ячэйкі пачынаюць карыстацца вялікаю пашанаю і прыхільнасьцю з боку сялян і сялянскай моладзі.

Цяпер мы бачым, што ў кожным цёмным кутку сьвеціць комуністычнае сонца. Моладзь чытае кніжкі, газэты, моладзь імкнецца ў комсамол, жадае вучыцца.

Хлопцы ўжо забыліся пра тое, як іх браты біліся, а яны падносілі ім каменьне.

Цяпер таго няма. Моладзь усіх вёсак жыве дружна, у добрых адносінах паміж сабою.

**Рыгор Жлобіч.**

# Міхейка „Гультай“.

(*Бытавы малюнак*).

Ліпнёўскія дні. Жытцо пачало красаваць. Была прыгожая летняя раніца.

Па шляху, які цёгся паміж жытніх палёў, ехалі ў мястэчка на кірмаш два заможнікі-гаспадары: адзін—Дзям'ян з Старынцаў, а другі—Павал з суседняй вёскі Прылукі.

Конь іх быў добры і, весела махаючы галавою, шпарка бег на роўнай, добра аб'ежджанай сьцежцы.

Заможнікі любаваліся расквітнеўшым рослым жытам.

— Во Майсеева, а гэта Сымонава, а вось і мая ніва,—паказваў Дзям'ян на палоскі свайго і суседняга жыта.

— Добрае жытцо, добрае,—барматаў сабе пад нос Павал,—проста глянуць міла.

— А вось і шнурочак нашага „багатыра“ Міхея,—гаварыў далей Дзям'ян.

— Што? Багатыра?! А чаму-ж у яго адны васількі парасьлі?—Глянуўшы на зусім вузкую, якая далёка відаць, асабліва з узгорку, блакітную палоску, запытаўся Павал у Дзям'яна.

— Так ты мо і сапраўды падумаў, што ён багаты?!—з сьмехам на твары пачаў Дзям'ян,--гэта, бачыш, у нас яго дражняць „багатыром“. І пры гэтым захацелася Дзям'яну расказаць пра Міхейку свайму сябру (асабліва па выганцы самагону) Паўлу.




— Міхей—гэта апошні гаспадар у Старынцах. А апошні таму, што гультай. Ён заўсёды сее тады, калі ў добрага гаспадара ўжо вялікім парасьце. Часта жне перасьпеўшае збожжа. Гэта не гаспадар, а чорт ведае што! Яго з вёскі мятлою-б пагнаць, а то ўсю справу псуе.

І што далей, то ўсё з большым і большым запалам навальваў хлусьню на Міхея Дзям'ян...

... Заможнік-Дзям'ян на кірмаш ехаць рана прачнуўся, а нашага бедняка Міхейку голад разбудзіў яшчэ раней.

Ён даўно ўжо ня сьпіць: спачатку на прыгуменьні хадзіў, а потым на поле глянуць вышаў. А ў галаве—учарашнія жончыны словы: Міхейка, што рабіць будзем: мукі—ані пылінкі, варыва—ні крупінкі, у кублох пуста. Дзеці есьці плачуць...

Міхей і сам гэта даўно ведае, але што ён, што ён, бедны, зробіць, чым дапаможа свайму гору!? Учора хадзіў к Дзям'яну прасіць пазыкі, але той проста адказаў: А вернеш мо' тымі васількамі, што замест жыта парасьлі?

— Адпрацую, Дзям'янка.

— Хаця ты з сваёю працаю не пазьніся, а я найду работніка і без цябе!—І больш Дзям'ян і слухаць нічога не хацеў, на'т адвярнуўся ад Міхея.

Вышаў Міхейка з Дзям'янавай хаты, а буйнымі каплямі сьлёзы так і пасыпаліся.

— Гультаём, дурнем лічыць мяне гэты кат,— шаптаў ён сабе пад нос...

Прыпомніла жонка Міхеева, што яе кум учора цэлы воз жыта намалоў. Пашла туды прасіць. Але кум адказаў „пакумаўскі“: ні фунціка няма, самім трэба пазычаць.

Міхеіха і да хатыісьці не хацела, думала к рэчцы... але дзетак шкада стала...

І так Міхею з сваёю сям'ёю прыходзілася галадаваць большую частку году.

Працаваў Міхей ня менш якога-небудзь Дзям'яна, а шмат больш, але праца яго ня ўся ішла на сябе. Зямлі ў яго было мала, а сенажаці яшчэ менш. Бывала, увесну Міхеяў конік і ўставаць ня хоча, а ўлетку крыху ачуняе—ваўкі возьмуць задушаць. Вось тут і разгарніся і стань багатым.

. . . . . . . . .

Пры цары жыў так Міхей і такія пагляды аб ім былі заможнікаў — царскіх прыхільнікаў.

Зусім інакшым стаў наш Міхей пры ўладзе сваёй—працоўна-сялянскай.

Цяпер ён жыве на пасёлку, які разлёгся на панскай зямлі. Пяць дзесяцін ворнае зямлі мае, дзьве—сенажаці. Завёў шматполку, сее караньплоды, травы.

Добры конь, дзьве заводзкія каровы, шмат добрых сьвіней.

Усё робіць Міхей, хоць сам і няпісьменны, так, як кажа яму агроном.

На апошняй выстаўцы ў „дзень ураджаю“ Міхей атрымаў прэмію—плуг і ганаровы дыплём за правільны пасеў караньплодаў і травы.

Цяпер ніхто ня скажа, што Міхейка дурань, Міхейка гультай, а нават за парадамі да яго ідуць.

Бывае, часам, прыпомніць Міхей старое сваё жыцьцё, але тады ідзе ён у хату-чытальню, якую вельмі любіць, і просіць пачытаць яму газэту ці кніжку.

Мазыр.

**Люба.**




# Вугольчыкі рэволюцыі.

**Драматычны нарыс у 2-х дзеях.**

АСОБЫ:

Белкін Ціхон—стары, хворы, майстар-сьлёсар, 60 год. Шмат чытаў, добра разважае.
Надзя—яго дачка, 34 г.
Пятрусь—Надзін мужык, рабочы, 30 г.
Міхаліха—суседка, кума, 60 год, жвавая, шмат гаворыць.
Сышчык захранкі—40 г., тоўсты, пралазьлівы.
Паліцэйскі—сярэдніх год, дурнаваты.

*Дэкорацыя абедзьвюх дзей—кватэра Белкіна, бедная, але чыстая і ахайная. Направа—вакно. У глыбіні сцэны канапа. Адны дзьверы ў задняй сьцяне сцэны, другія (у спальню) з левага боку. Вісіць гадзіньнік.*

### ДЗЕЯ 1-ая.

Гадзіньнік выстуквае сем раніцы. Ціхон ляжыць на канапе і слухае, як звоніць гадзіньнік. Цемнавата.

Ціхон. Сем гадзін, а як яшчэ цёмна! Улетку ў сем гадзін сонейка ўжо сьвеціць, птушачкі сьпяваюць, а цяпер яшчэ ўсё сьпіць. Толькі такім, вось, як я, непатрэбным людзям, ня сьпіцца. Эх... хе... хе... Ляжы, як пень, ды перабірай у мазгох жыцьцё сваё гарамычнае. І што толькі на розум ня прыдзе!.. Розумам, здаецца, і там і тут-бы пабываў, а на справе—далёка ня тое. Да дзьвярэй вось не дапаўзеш... Ох... хо... хо. Вось да чаго мяне давяло гэта жыцьцё рабочае. Усе сокі сваімі машынамі высмактала. З малых-жа год я стаў цягацца па гэтых заводах. Сям'я вялікая была, бацькі ні было, а матка хварэла ўвесь час... (*Уваходзіць Надзя. У руках кошычак*).

Надзя. З добрай раніцай, татка.

Ціхон. А-а... Гэта ты, Надзька. Я думаў, што ты сьпіш.

Надзя. На рынку была. Дзень-жа сёньня базарны. (*Ставіць кошычак*). Чаго-ж гэта ты рана так абудзіўся?

Ціхон. Сну, Надзюшка, няма. Паясьніцу вось усю разламала й моцы няма.

Надзя. А ты-б зельлем пацёрся. Лягчэй-бы мо' стала.

Ціхон. Не. Відаць, ужо гады мае такія: ніякім чортам не дапаможаш. Жыцьцё, Надзька, мінаецца.

Надзя. Ну, што ты, што ты гаворыш!.. Вось натрыся зельлем. Я бутэлечку дастану.

Ціхон. Ня трэба, не старайся. Лепш дапамажы прысесьці.

Надзя (*памагае Белкіну сесьці на пасьцелі*). Дзеці ня крычалі?

Ціхон. Ну, вось цяпер і добра.

Надзя. Дзеці без мяне ня плакалі?

Ціхон. Ня чуў. Цёмна яшчэ. Сьпяць.

Надзя. Ну й добра.

Ціхон. Пагода на дварэ, мабыць, сапсавалася?

Надзя. Так, хмарна. Дождж ідзе ды йдзе. Такая шэранькая пагода, што проста не глядзела-б ні на вошта. У такія дні й на сэрца нуда находзіць. А чуў, які быў вецер ноччу?

Ціхон. Як ня чуць! Усю ноч ня спаў. Ваконьніца гэта, каб яе чорт, бязупынна стукала.

Надзя. Ах гэта ваконьніца. Усю душу яна маю выматала. Учора з вечару пачала зачыняць вокны, трэба—кручок у гэтай ваконьніцы зламаўся. Я прычыніла яе сяк-так, а вецер як разгуляўся, так і давай сьвістаць, аб сьцены стукаць. А мне так і думаецца, што гэта Пятрусь у вакно барабаніць.

Ціхон. Да дзе гэта ён, мілы? Як паехаў, так ні слуху, ні духу.

Надзя. Чацьверты месяц нічога не прысылае. Я проста галаву губляю. Як і што з ім—згадаць не магу. Хаця-б не захварэў ён там у горадзе? (*Пачынае плакаць*).

Ціхон. Ну, хваціць, Надзька, хваціць. Ня сумуй! Усё абыдзецца падобраму. (*Абое маўчаць. Паўза*). Эх, як постаць уся ные. Як непагода, так і давай ламаць, і давай ламаць.

Надзя. Як у воду кануў. Казала яму: ня езьдзі, Пятрусёк. Тут як-небудзь уладзімся. Бо сьвет, кажу, ня клінам сышоўся. У рабочым чалавеку шмат хто патрэбу мае. Так вось-жа забраўся і па-

ехаў. Што нам рабіць: ні грошай, ні хлеба. Сёньня ў апошні раз напавер дала крама... Хоць-бы аб сабе што-небудзь напісаў.

Ціхон. А можа гэта ня так проста. Вось, як папаўся ў рукі паліцыі—добрага не чакай. Несьцярожны ён такі. Пойдзе, гэта, і пойдзе ляпаць языком. Ды дзе гэта відана, каб рабочых патрэбу хто адчуваў? Ну, што ён тут з нявытрыманасьці свае нарабіў: майстра аддубасіў, гаспадару кукіш паказаў. Усё з гарачкі, усё адзін ды адзін. Каб падтрымка, а то... і народ туг падабраны, несьвядомы. А таму й душаць. Адзін у полі не ваяка... Лепш маўчаць, сьцяўшы зубы.

Надзя. Ды як-жа маўчаць, татка? Што гэта за жыцьцё настала? Уласьнік апошнюю капейку нашу стаў грэбці да сваіх рук.

Ціхон. Гарачы ён залішняе. Гэтым іх ня спужаеш. Тут трэба *саабча*, а не аднаму.

Надзя. Зараз усе рабочыя шкадуюць, што Пятруся няма. Вельмі, кажуць, спраўны быў і гаварыў праўду. (*Бярэ кошычак*). Ну, хіба пайду я, татка, падрыхтую што-небудзь к сьнеданьню. Да нас Міхаліха павінна прысьці, так ты накіруй яе да мяне на кухню.

Ціхон. Добра. (*Надзя выходзіць. Паўза*). Загубілася праўда-маці. Праз сілу валачу сваю паднявольную лямку і рэкнуць ня сьмей. Ведай—працуй, як машына. І няма табе ні днём, ні ноччу супакою. Сёньня думай, што будзе заўтра, а заўтра, што будзе пасьлязаўтра. Сёньня голад, заўтра голад і бясконца гэтыя... пакуты. Эх, ты, гаротная долюшка рабочых. Памысьліш гэта аба ўсім і такою помстаю забурліць тваё сэрца, што, здаецца, я—стары, бязмоцны—і то пашоў-бы на змаганьне з гэтымі багачамі... (*Уваходзіць Міхаліха*).

Міхаліха. Добры дзень, суседзік. Як здароўечка?

Ціхон. Мацней. Ня чую.

Міхаліха. Я пытаюся пра тваё здароўечка.

Ціхон. Кепска. Сьпіна вось жыць не дае.

Міхаліха. Гэта ў цябе ад ляжаньня ды сядзьбы. А ты-б, даражэнькі, прашоўся-б крышку. А ляжаць ды сядзець—вельмі надаедлівая рэч.

Ціхон. Нічога, кумка, ня зробіш. Хвароба хоць каго пераможа.

Міхаліха. Што й казаць. А ты-б выпраставу крыху свае касьцякі хоць. Дай я табе дапамагу. Вось за столік сядзь!

Ціхон. А ну, хіба. Ты, бач, Міхаліха, і самога чорта ўгаворыш.

Міхаліха. Ай, што ты, кумок! Цьфу, цьфу! Каб яму было пуста, якая-ж з чортам гульня? (*Вядзе Ціхона к сталу*).

Ціхон. Я вось усё, кумка, дзіўлюся: такі быў я моцны, а цяпер—і куды ўсё яно дзелася? Паварушыцца цяпер нельга: усё так ные ды баліць. (*Садзіцца*). Вось і дзякуй табе.

Міхаліха. Няма за што. Ды ці мала што раней было! Што было, тое прашло. Ня вернеш назад, не!

Ціхон. Чаму ты так рэдка да нас прыходзіш?

Міхаліха. Да ўсё па гаспадарцы па той няўпраўкі.

Ціхон. Тут у мяне пад падушкай кніжка і акуляры ёсьць. Падай, калі ласка, ты іх мне.

Міхаліха (*дастае кніжку і акуляры*). А я да Надзі. Сабіраліся мы з ёю адабраць што-небудзь з вопраткі на продаж... Нічога, кажа, Пятрусёк ня піша.

Ціхон (*махнуўшы рукою*). Прапаў зусім.

Міхаліха. Ды куды гэта ён паехаў, ніяк ня прыпомню?!

Ціхон. У сталіцу, у Пецярбург.

Міхал. Ах, бацькі мае родныя, унь куды! А там у Пенцянбургу паўстаньні, кажуць, аж страх памысьліць.

Ціхон. Паўстаньні! Ты кажаш паўстаньні?

Міхал. Быццам так. Нядаўна быў там Лявон і казаў,—ня дай бог, што там робіцца.

Ціхон. Калі так, дык мне зараз зразумела маўчаньне Пятруські. Кумка Міхалішка, не кажы толькі Надзі нічога! Плакаць, бедная, будзе.

Міхал. Не скажу, кумок, не скажу. Ведаю яе хворае местачна. Але няма калі гаманіць. Ты пачытай сабе, а я да яе пайду. (*Выходзіць*).

Ціхон (*у глыбокім задуменьні*). Значыць—кранулася рана. Лопнула рабочае цярпеньне. Слава табе госпадзі. (*Хрысьціцца*). Адно толькі-б распачаць. Толькі-б крануць першы камень, а там хутчэй рухнуць і гнілыя, сілком замацаваныя троны. Добрага шляху, барцы вольныя! Адтуль, з далёкага вялізарнага гораду, вы ўліваеце ў мае старыя жылы нейкую адвагу і надзею. Ня ўсё яшчэ згублена. Будзе й на нашым баку сьветлае сьвята. (*Бярэ кніжку й чытае. Час ад часу даносіцца плач ветру. Уваходзяць Надзя і Міхаліха. Надзя бярэ з паліцы пасуду і ставіць на стале. Рыхтуюцца сьнедаць. Міхаліха стаіць паводдаль, у руках клуначак трымае*).

Міхал. А вы сёньня рана сьнедаеце!

Надзя. Пакуль сьпяць дзеткі—трэба пасьнедаць. Ды тут-жа ў нас і полудзень! Бялізну памыць трэба—ня будзе калі.

Ціхон. У апошнія часы мы і пра яду забываецца сталі.

Надзя. Сёньня і так апошні раз напавер далі. Ня ведаю, што й рабіць будзем. Ну, татка, сьнедаць хадзі. Да ты сёньня маладзец і баста, нават за кніжку ўзяўся.

Ціхон. Вось кумцы дзякуй... Эх, старасьць ня радасьць, кажуць, а я скажу—сапраўднае гора.

Надзя (*да Міхаліхі*). Сядай з намі!

Міхаліха. Дзякуй. Пайду. А то я й забылася, качарга старая, што ў печы, мабыць, зусім выгарала.

Ціхон. А ты, суседка, прыходзь часьцей. Разам як быццам і мякчэй крыху. Надзька—то каля печы, то з дзецьмі пакуль угамоніцца, а я адзін ляжу, як няжывы той.

Міхаліха. Што й казаць. Гады такія нашы старыя. Нездаровіцца ўсё. Вось і ў мяне часам, то тут, то там ды кальне. Ну, заставайцеся здаровенькі! Пайду. (*Выходзіць. Ціхон і Надзя моўчкі сьнедаюць*).

Надзя. Ды што гэта ты, татка, чытаў? Мабыць Маркса?

Ціхон. Маркса. Як многа мудрага сказаў ён у гэтай кніжцы. Пачытаеш і так лёгка стане на сэрцы. Ёсьць усё-ж такі людзі, якія і за бедных людзей стаяць.

Надзя. А я вось колькі раз ні бралася чытаць яе, дык нешта незразумела.

Цiхон. Жывеш ты яшчэ мала, Надзька, і ня ведаеш усяго таго, што церпіць бедны працоўны люд. Кроўю й потам трэба разумець гэту кніжку і гэта вучэньне. Для мяне, вось, які пражыў увесь свой век у дыме ды хмарах, пыле майстэрань, зранку і да ночы за станком—вядома, што вучэньне—вялікае працоўнае вучэньне, я знаю і каштоўнасьць яму.

Надзя. Я не кажу, татка, што кепска напісана, а вось толькі не зразумела часьці.

Цiхон. Усё зразумееш, дачушка, усё. Настануць дні, калі гаротны, прыгнечаны люд вызваліцца з-пад уціску царскага. Тады ня будуць фабрыканты выкідаць з заводаў, як нашага Пятруся вось выкінулі за тое, што праўду казаў. Рабочыя і сяляне возьмуць уладу ў свае мазольныя рукі. Гаспадарамі ўсіх фабрык і заводаў будуць яны. Хутка, ой, хутка ўзыйдзе і наша чырвонае сонейка. Я пэвен, што мы жывем напярэдадні нашага пролетарскага сьвята. Аб'ядняюцца працоўныя масы і назаўсёды скінуць уціск з боку багатыроў і вяльмож. У новым жыцьці ўсе людзі будуць вольнымі і роўнымі. Ня будзе тады гэтых кровапралітных войнаў, якія ставяць людзей на адным роўні з агіднымі зьвярамі. Людзі—браты, зразумеюць свой брацкі ўдзел на зямлі і працягнуць адзін другому свае сяброўскія рукі. Я агніста веру ў гэтую сьветлую раніцу працоўна-людзкога жыцьця.

Надзя (*у задуменьні*). І я, татка, веру ў гэта народнае шчасьце!

Заслона.

## ДЗЕЯ 2-я.

Поўнач. Цiхон сьпіць на канапе. Надзя ў спальні з дзяцьмі На стале гарыць сьвечка. За вакном нясьмелы стук.

Цiхон. Надзя, Надзька!

Надзя (*з спальні*). Ты мяне, тата?

Цiхон. Так. Паглядзі, хто гэта там стукае!

Надзя. Дзе стукае, хто?

Цiхон. У вакно. (*Стук чуваць лепш*). Во, чуеш?

Надзя. Ну але-ж! Хто-ж гэта там? (*Падыходзіць да вакна*). Хто там? Пайдзіце сваім шляхам.

Цiхон. Да ты адчыні.

Надзя (*з страхам*). Хто яго ведае, што ў яго на душы?

Цiхон. Не заможнікі, што ў нас возьме хто? (*Надзя адчыняе вакно. Паказваецца галава Пятруся*).

Надзя. Ах!..

Пятрусь. Надзька...

Надзя. Пятрусь. Ці ты гэта?!

Пятрусь. Я... я... (*Лезе праз акно ў хату*). Як жывеш, любая мая... (*Цалуе*).

Надзя. Мой ты мілы... а я так... напалохалася.

Цiхон. Каго я бачу, Пятрусёк? Няўжо ты?!

Пятрусь (*падыходзячы да пасьцелі Цiхона*). Я, дзядулька, я. Добрага спатканьня, дарагі.

Надзя. Мой Пятруська, колькі радасьці!

Цiхон. Чаму гэта ты праз акно? І нас перапалохаў.

Пятрусь. А тут, дзядулька, бяз усякай перасядкі. Бачыш, уцякач я. Вартуюць за мною. Вы, калі ласка, цішэй, а то гатова паліцыя наскокнуць. (*Да Цiхона*). Ну, а як здароўе ваша? Я мысьліў, што ты папраівўся, з пасьцелі ўстаў.

Цiхон. Дзе там да папраўкі. Таго й глядзі—на могілкі... Ды што казаць аба мне. Вось як ты? Дзе быў?

Пятрусь. У турме, татка, сядзеў. З клапамі і іншымі турэмнымі жывёламі вайну вёў. Але потым гэтага ня вытрымаў—узяў ды ўцёк. Таварышы, дзякуй ім, дапамаглі. (*Надзя пачынае плакаць*). Вось табе і на. Пакінь, каханая! Ня плач!

Надзя. І колькі мук і гора ты перанёс, Пятрусёк!

Пятр. Лепш аб гэтым... змоўкнуць.

Надзя (*спахваціўшыся*). Даруй мне. Забылася ад радасьці. Есьці то, напэўна, хочаш. Я зараз, у вадну хвілінку ўсё падрыхтую. (*Старанна выходзіць*).

Цiхон. Больш як пяць месяцаў мы аб табе нічога ня ведалі. Мысьлілі, што і ў жывых няма.

Пятр. Ня цяжка й на тым сьвеце апынуцца.

Цiхон. Знача праўда, што Пенцянбург паўстаньнем гарэў? Тут кума наша казала. У іх, у гэтых чарцей пузатых, нічога не пачуеш. Усё шыта-крыта.

Пятр. А вось я табе расскажу. Як прыехаў у Петраград, суняўся я ў таварыша. На другі дзень пашоў на Пуцілаўскі завод. Кваліфіцаванай пасады не знашлося, і мне часова прышлося застацца чорнарабочым. Трэба-ж што-небудзь працаваць. Працую я, гэта, на Пуцілаўскім ды ўсё прыглядаюся да сталічнага, працоўнага жыцьця. Прымусу—і там чорт ведае колькі. Але рабочыя ўсе організованы. Чуць што—гарою адзін за другога стаяць. Прашло, гэта, месяцаў пару. Бачу, мае таварышы з кожным днём больш сумнымі робяцца. Жыць стала зусім цяжка. За дзесяці-дванаццаці гадзінны дзень працы атрымоўваеш толькі капейкі; канцы з канцамі ня сточыш. А фабрыканты — ні на якія паляпшэньні ня йдуць. Рабочыя сталі сабірацца на патайных кватэрах. Організована дзейнічаць пачалі. Крыўдна, галоўнае, што ўсё-ж такі мы людзі, а пасабачаму жыць прыходзіцца. Шмат гутарылі аб жыцьці працоўных, аб нявыноснай працы. З усіх канцоў прыходзілі рабочыя з аднымі й тымі-ж думкамі, каб палепшыць сваё жыцьцё. І вось, аднаго разу, калі сабраліся амаль што ўсе рабочыя Петраграду, мы парашылі ісьці да цара з жалабаю прасіць у яго дапамогі. „Боже царя храни" сьпявалі, харугві несьлі. А ён, самадзержац гнусны, замест міласьці—паліцыю з казакамі сустракаць нас паслаў. Шмат лягло бедных рабочых ад іх куль. Зачапіла і мяне адна, ды, вось, нічога, жывым застаўся.

Вось як, татка!

Надзя (*уваходзіць з ядою*). Сядзь, паеш, Пятруська. (*Пятрусь садзіцца за стол*).

Пятр. Даўно ў такім супакоі я еў.

Надзя. А мы без цябе так сумавалі! Дня ня было, каб пра цябе ня ўспомнілі. А ад цябе— ні слоўца.

Пятр. У такіх абставінах, у якіх я зараз быў, ня вельмі то расьпішацца.

Надзя. Як-жа ты сюды папаў?

Пятр. Добрыя людзі дапамаглі ўцячы... Дзеткі сьпяць, Надзька? Як здароўе іх?

Надзя. Сьпяць. Здаровы. Міколка такім ёмкім робіцца. Часта пытае: дзе татка, татка дзе?

Пятр. Мае мілыя дзеткі... Але хай сабе сьпяць, высыпаюцца. Хоць здалёку гляну. (*Падыходзіць к

*дзьверам, што ў спальню*). Вось яны—маё шчасьце й пацеха. Сьпеце... расьцеце. Можа вы дачакаецеся новага жыцьця, закончыце зачатую намі справу. (*Тупаньне нагамі за сцэнаю і стук у дзьверы*). Нехта стукае. Мне трэба, каб ніхто з чужых мяне ня бачыў.

Н а д з я. Лезь на гару. (*За сцэнаю голас сышчыка:* „Именем закона отворите“).

П я т р. Гэта яны.

Н а д з я. Хто тут? Што вам трэба? (*Пятрусю*). Пятруська, мілы, уцякай. (*За сцэнаю тупаньне нагамі і той самы голас*: „Именем закона отворите дверь или мы разнесем ее в щепы)“.

П я т р. Упусьці іх, Надзька. Я гатоў іх спаткаць. (*Надзька адчыняе дзьверы. Буйнымі шагамі уваходзіць сышчык. За ім кульгаючы цэдзіць паліцэйскі й станавіцца ў баку*).

С ы ш ч ы к. Что-же вы, чорт вас возьми, не слышите, что-ли? А?

Ц і х о н. Ночка. Нельга не замкнуўшыся.

С ы ш ч ы к. Лежи, старый бес. Не с тобой речь веду!

Н а д з я. Што тут зладзеі якія ці што?

П я т р. Па якой справе вы сюды папалі? (*Усе ў адзін голас*). Мы не зладзеі!

С ы ш ч ы к. Не рассуждать. (*Паліцэйскаму*). Видел, сколько гонору-то в них. Подумаешь, какие их благородие.

П о л і ц. (*пад казырок*). Известно, ваше высокароде, оно тас... конечно... мы хуже... грабителев-с, ваше высокароде.. Акрамя что... сказать к примеру... вы...

С ы ш ч. Ладно! Стой, как следует. Опять тебя выдержке учить?!

П о л і ц. Вінават, ваша выскароде.

С ы ш ч. Так вы, говорите, не грабители. Вы... хе... хе... хе... не только грабители, а мошенники, разбойники, прохвосты!

Н а д з я. А божа мой, што гэта такое? Што гэта?

С ы ш ч. А вот что! Скажи-ка, что это за человек? (*Паказвае на Пятруся*).

Н а д з я. Мой мужык.

П я т р. Кажыце проста, што вам тут патрэбна? Я рабочы—мужык гэтай жанчыны. А вось стары—яе бацька.

С ы ш ч. (*с иронией*). Рабочий. (*Дастае з кішэні паперы й чытае*). Ты будзеш Пётр Дубасін?

П я т р. Так. Я Пятрусь Дубасін.

С ы ш ч. Именем закона ты арестован. (*Паліцэйскаму*). Ну-ка, возьми его да свяжи руки покрепче, а то они в этих социалистов длинные.

П о л і ц. Слухаюсь, ваше выскароде!

Н а д з я (*сышчыку*). Адпусьцеце яго. У яго дзеці. Ня вінен ён.

С ы ш ч. Ну, там, сударыня, разберем, виноват он или нет. (*Хбдзіць і ўсё баламуціць. Потым падыходзіць да пасьцелі Ціхона*). Ну-ка, старик, что ты за человек?

Н а д з я (*з просьбаю*). Ваша благародзе. Вы хоць яго, старога чалавека, пакіньце ў супакоі.

С ы ш ч. Ну, вставай!

Ц і х о н. Хвор. Не магу я. А што вам трэба? (*Надзя плача*).

П я т р. (*сышчыку*). Не адважвайцеся сьмяяцца над старым чалавекам. Кат!

С ы ш ч ы к. Молчать! Степан, держи крепче. (*Зноў падыходзіць да Ціхонавай пасьцелі і мацае пад падушкаю*). Ага, книга. (*Разгортвае*). Карл Маркс. Капитал. Так-так. Вон ты каков старик. Хорош, нечего сказать. На кладбище пора, а он под головой книги запрещенныя держит.

Н а д з я. Ваша благародзе, пашкадуйце нас. Адпусьцеце Пятруся майго, у яго дзеткі малыя, ня вінен ён.

С ы ш ч. (*паліцэйскаму*). Веди, куда следует.

П о л і ц. Слушаюсь. В каталажку его, ваше высокородие. (*Сьмяецца*). Ну, пайдем, фря сицылинска.

П я т р.(*сышчыку*). Крывапійцы! (*Ціхону й Надзі*). Бывайце здаровы! Пацалуй... Надзя, дзетак... раскажы ім пра бацьку... турэмніка. (*Паліцэйскі выводзіць арыштаванага*).

Н а д з я. (*Азьвярэўшы кідаецца да дьвярэй*). Пятру-сё-к!

С ы ш ч. (*Хватае яе за руку і кідае на калені*). Ни шагу! (*Ціхон падае ў вобмарак*).

Н а д з я (*на каленях*). Ваша благародзе. Зразумейце, напасьледак, беднасьць нашу гаротную... Вярнеце мне майго мужыка дзеля канаючага бацькі, для малых дзетак.

С ы ш ч ы к (*з усьмешкаю*). А кто поручится за то, что дети проходимца не будут такими, как и отец?

Н а д з я (*падняўшыся з долу, горда*). Мой муж не прайдзісьвет. Ён сапраўдны барацьбіт за праўду людзкую.

С ы ш ч ы к. Ты не скажешь!

Н я д з я. Што-ж я буду казаць!

С ы ш ч. Ну, а мне некогда твои бабьи нелепости слушать. (*Зьбіраецца выходзіць. Надзя заступае яму дарогу*). Уйди!

Н я д з я. Вярні мне майго Пятруся.

С ы ш ч. Пусти. Со мной шутки плохи: я слуга царю и отечества. Эй, Степан!

П о л і ц. Здесь, ваше высокороде!

С ы ш ч. В холодную. (*За сцэнаю голас дзяцей:* „мама“, „мама“).

Н а д з я. Чуеш? Гэта плача маё галоднае дзіця...

С ы ш ч ы к. Да замолчишь-ли ты, наконец, змея подколодная. Степан, живо! (*Паліцэйкі выводзіць Надзю. За імі выходзіць і сышчык. На сцэне Ціхон, які часамі блузьніць. За сцэнаю плачуць дзеці і чуваць крыкі*: „мама“, „мама“).

З а с л о н а.

**А Сьмір.**





# Вёска ў песьнях і частушках.

Я на ганку стаю,
Думкі коцяцца;
Ў клюб-чытальню пайсьці
Надта хочацца!

Год з сорак бацька жыў,
Нічога ня бачыў,
А Кастрычніка прыждаў,
Дык зажыў іначай!

Не напрасна жонка плача—
Самі сьлёзы льлюцца:
На пасёлкі надта хоча,
Бо за землю б'юцца!

Пойдзем, Янка, на кірмаш,
Купім політграмату,
Прачытае нам Тамаш,
Дык здабудзем граммату!

На заняткі ў клюб хадзіла,
Шмат там навучылася,
А дачку як нарадзіла—
Без папа хрысьцілася!

Да Кастрычніка жыла---
Да папа хадзіла,
А як кніжку я ўзяла—
Пра царкву забылася!

**З. Малевіч.**

* * *

Мы, вясковыя дзяўчаты,
Перагонім і хлапцоў.
Адсьвяткуем сваё сьвята,
Сьвята сьветленькіх дзянькоў.

У ячэйку комсамолу
Мы запішамся усе,
Каб дакладна і талкова
Знаць, што робіцца і дзе.

Ўсе забудзем пра старое,
Жыць пановаму пачнем.
Пакаленьне маладое
За сабою павядзем.

Мы, вясковыя дзяўчаты,
Не адстанем ад хлапцоў.
Адсьвяткуем добра сьвята
Кастрычніка восем гадоў.

**Я. Д.**




* * *

Падбірала я лянок,
Весела сьпявала.
Ў мяне радасны дзянёк—
Комсамолкай стала.

Малаціла я авёс
Бярозавым цэпам.
Расскажу пра комсамол
Дзеўкам і кабетам.

У гародзе я была,
Сьсякала капусту.
Не пайду болей к пану
На гутарку пусту.

Церла ў лазьні я лянок
Гаварыла дзеўкам
Запісацца ў комсамол
Ды скласьці ячэйку.

Я па вуліцы іду,
Галава ня хіліцца—
Комсамол ужо вялік
І яшчэ пашырыцца.

Буду прасьці я лянок,
Ізноў засьпяваю:
— Я заветы Ільліча
Добра памятаю.

**Глебка Пётра.**

## Сонца сьвеціць, сонце грэе...

На мотыў: *Ой і што-ж там за вярба...*

Сонца сьвеціць ды ня грэе,
Ян чытаў-бы, ды ня ўмее.
Ох ля, ды люля,
Няпісьменнасьць тут віна.
Прачытаў-бы у газэце,
Ён, што робіцца на сьвеце.
Ох ля, ды люля,
Няпісьменны бедны Ян.
Але што тут за бяда!
Ёсьць-жа ў Янкі галава.
Ох ля, ды люля,
Што тут Янку за бяда.

Ночкі доўгі—ў вечары
Пойдзе ў школу, хоць стары.
Ох ля, ды люля,
Няпісьменнасьць зьнішчыць Ян.

Будзе шчасьця поўна хата,
Усё пойдзе новым ладам.
Ох ля, ды люля,
Зажывё тады наш Ян.
Не расьпішацца крыжамі
На якой-нібудзь заяве.
Ох ля, ды люля,
Размахнецца пяром Ян.
Пойдзе ён да агронома,
Каб палепшыць сваё поле.
Ох ля, ды люля,
Ураджай пабольшыць Ян.
Сонца сьвеціць, сонца грэе—
Ян чытаць ужо умее.
Ох ля, ды люля,
Йдзе наперад цяпер Ян.

**Янка Бор.**

# Як працаваць над п‘есаю.

Часта бывае, што хаця драмгурткі і ставяць спэктаклі, але працуюць над спэктаклямі, рыхтуюць п‘есы зусім кепска. Вядома, што ў такім выпадку сябры драмгуртка йдуць на сцэну, ня ведаючы свае ролі, а выконваюць яе пры дапамозе падказьніка (суфлёра), які часта крычыць мацней за самых выконвацелей п‘есы. Ад такой настаноўкі прысутны нічога не атрымае і вернецца да хаты нездаволеным.

Здараецца гэта, галоўным чынам, ад дзьвёх прычын: ці гурток ня мае кіраўніка, ці кіраўнік толькі распачаў тэатральную працу і зразу ня можа яе добра наладзіць: *Тут трэба дапамога.* Бывае гэта яшчэ і па віне ўсяго гуртка, калі хлапцы і дзяўчаты, нават радуюцца тым, што пасьля дзьвёх, а то зусім пасьля аднае рэпэтыцыі „валяюць“ п‘есу і пры гэтым лічаць сябе сапраўднымі артыстымі; *тут трэба ўсяму гуртку перамяніць такія адносіны да працы*, і калі справа не палепшыцца,—лепш зсім пакінуць працаваць.



1917 г. Асада зімовага дварца 25 кастрычніка.

Чаму раней, як паказаць глядзельнікам п‘есу, трэба яе, як лепш ня трэба, падрыхтаваць? Чаму такую справу, як спэктакль, такую „забаву“ мы завем „працаю“ і гаворым аб тым, што рабіць яе трэба сур‘ёзна?

Тэатр на вёсцы павінен адыграць вялікую ролю ў барацьбе за новае жыцьцё, дапамагчы вёсцы ў яе палітычным і культурным разьвіцьці. А гэта зрабіць магчыма толькі пры організованай і сур‘ёзнай рабоце.

Але ёсьць яшчэ і другія прычыны таго, што кожны ўдзельнік спэктаклю, як і сам спэктакль, павінен добра падрыхтоўвацца. Глядзельнікі прыходзяць на спэктакль кожны са сваімі думкамі, ня ўсе з аднолькавым настроем, а задача-ж кожнага спэктаклю *аб‘яднаць думкі, адчуваньні і волю ўсіх глядзельнікаў*, дапамагчы ўсім бачыць тое, што робіцца на сцэне, аднолькавымі вачмі і пайсьці ўсім з аднолькавым уражаньнем. Але кожны глядзельнік зробіць гэта толькі тады, калі выконваньне спэктаклю будзе настолькі моцным і захапляючым, што ён і сам не заўважыць, як увойдуць, са сьмехам ці спачуваньнем у яго сьвядомасьць, гэтыя новыя думкі й адчуваньні.

Зразумела, што ўтрымаць увагу ўсіх глядзельнікаў на працягу ўсяго спэктаклю нашым выконвацелям, якія ня ведаюць, што ім рабіць на сцэне, нельга.

Апрача гэтага, заўсёды трэба рабіць так,—а ў рабоце па мастацтву гэта асабліва неабходна,—каб з кожным разам паляпшалася твая праца.

Ня менш важны момант і выбар п‘есы. Гэта першы крок да добрай працы.

*Чытка п‘есы, гутарка і раздача роляй.*

Калі выбрана п‘еса, кіраўніку гуртком трэба разоў пару прачытаць яе, разабрацца ў ёй, зразумець. Пасьля гэтага кіраўнік назначае *чытку п‘есы*. На ёй прысутнічаюць усе сябры гуртка. Як п‘еса прачытаецца, прыступаюць да абгаварваньня гэтай п‘есы. У гутарцы кожны адказуе на наступныя пяць пытаньняў так, каб было зразумела самому і другім.

1. Што гэта за п‘еса, што яна сабою адбівае: старое, дарэволюцыйнае ці новае жыцьцё? Нашае краіны ці другой?.

2. Якая асноўная думка гэтай п‘есы, што трэба паказаць глядзельніку, з якімі думкамі і ўражаньнямі прысутныя пакінуць спэктакль?

3. Высьмейвае п‘еса якія-небудзь бакі жыцьця, якія бакі і якога жыцьця (вясковага, гарадзкога), ці паказвае што іншае? І што?

4. Якая, за што і паміж кім вядзецца барацьба, і хто атрымоўвае верх.

5. Які характар кожнай асобы ў п‘есе і як гэты характар мяняецца ў ходзе п‘есы?

Калі хто-небудзь ня здолее адказаць на тое ці іншае пытаньне, адказвае наступны сябра гуртка ці кіраўнік.

Мэта гэтай гутаркі—выявіць правільны й агульны погляд на п‘есу, а гэта неабходна для таго, каб і ўвесь гурток і кожны выконвацель ведаў, што яму трэба рабіць на сцэне

Пасьля чыткі і агульнай гутаркі прыступаюць да разьмеркаваньня роляй. Кожны, жадаючы іграць тую ці іншую ролю, кажа аб гэтым. Калі кіраўнік бачыць, што жадаючы выканае ролю—запісвае яе яму. Ролі павінны быць перапісаны яшчэ да чыткі п‘есы. Гэту работу выконваюць усе сябры гуртка. Калі на ролю няма ахвотніка, тады кіраўнік па сваім выбары назначае вольнага таварыша. Сварыцца й гневацца пры разьмеркаваньні роляй нельга, бо ў праціўным выпадку ў гуртку ня будзе організованай работы.

Як праводзіць рэпэтыцыі, і як працаваць кіраўніку—другім разам.

Л. Субоцін.

---

## Словы тав. Леніна.

1. Самае карэннае, самае істотнае пытаньне—гэта адносіны рабочай клясы да сялянства, гэта саюз рабочай клясы з сялянствам, гэта ўменьне перадавых рабочых, якія прашлі доўгую, цяжкую, але ўдзячную школу буйнай фабрыкі, уменьне іх паставіць справу так, каб прыцягнуць на свой бок масу сялян.

2. Уласна кажучы, нам засталося толькі адно: зрабіць наша насельніцтва настолькі цывілізованым, каб яно зразумела ўсе выгады ад пагалоўнага ўдзелу ў коопэрацыі і наладзіла гэту справу. Толькі гэта і аніякія прамудрасьці нам непатрэбны для таго, каб перайсьці да соцыялізму.



# Што чытаць пра Кастрычнік.

○ **Н. Ленін (У. Ульянаў)**. *Собрание сочинений*. Том XV. Пролетариат у власти. 1917-18 г.

○ **Н. Ленін (У. Ульянаў)**. *Собрание сочинений*. Том XVI. Пролетариат у власти 1919 г. Дзяржаўнае выдавецтва Масква-Ленінград. 1923 г., 544 старонкі.

○ **Н. Ленін (У. Ульянаў)**. *Собрание сочинений*. Том XVII. Пролетариат у власти 1920 г.

○ **Н. Ленін (У. Ульянаў)**. *Собрание сочинений*. Том XVIII. Пролетариат у власти 1921 г.

○ **Н. Ленін (У. Ульянаў)**. *Собрание сочинений*. Том XIX (нацыянальнае пытаньне).

○ **Н. Ленін**. *Тактика большевизма*.

○ **Л. Троцкі**. *Основные вопросы революции*. Гэта кніжка вышла ў ліпні 23 г. У ёй аб'ёдданы тры працы, якія друкаваліся раней, гэта: I—Тэрорызм і комунізм (напісана ў 1920 г. адносна крытыкі рэволюцыі ў кніжцы Каўцкага). II—Паміж імпэрыялізмам і рэволюцыяй. III—Новая экономічная політыка і пэрспэктывы міравой рэволюцыі.

○ **Якаўлеў**. *Об историческом смысле русской революции*. Выдав. „Красная Новь" ГПП 1922 г., 17 стар.

У гэтай брошуры высьвятляюцца экономічныя і політычныя прадпасылкі, на фоне якіх трэба разглядаць вялікі Кастрычнікавы пераварот.

Нясучы з сабою вырашэньне галоўных соцыяльных проблем, рабоча-сялянская рэволюцыя, пад кіраўніцтвам компартыі, вывела краіну з імпэрыялістычнай бойні, прытым перарабіўшы міжнародную вайну ў вайну пролетарыяту супроць капіталу.

Факты і лічбы, якія выдрукаваны ў брошуры, яшчэ больш кажуць аб зьмесьце рэволюцыі.

○ **Зіноўеў Г.** *Бессмертие русской революции*. Дзярж. выд. 1922 г., 13 стар.

Гэта невялічкая, як лепш ня трэба напісаная брошурка, ёсьць артыкул, надрукаваны ў „Правде" ад 7-га лістапада, у дзень пяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

○ **Карл Радэк**. *Октябрьская революция и ее место в мировой революции*. Выд. „Красн. Новь" 1922 г., 18 стар.

Аўтар дасьледуе пытаньне аб характары расійскай рэволюцыі: пролетарская яна ці буржуазная. Ён прыходзіць к вываду, што, ня гледзячы на ўсе няўпэўненасьці, якія былі выкліканы НЭП-ам, расійская рэволюцыя—пролетарская і соцыялістычная, і што заветы Кастрычніка—гэта програма сусьветнай рэволюцыі. НЭП—пераходная політыка рабочай клясы.

○ **Троцкі Л.** *Октябрьская революция*. 125 ст. Гэта кніжка высьвятляе здарэньні з пачатку 18 чэрвеня 1917 г., закранаючы сабою і першыя дні новага ладу. Кніга даступна да сярэдня-падрыхтаванага.

○ **Піонткоўскі С. А.** *Хрестоматия по истории Октябрьской революции*. Выданьне „Красной Нови", 270 стар. Зьмест кніжкі: Уступ. **Разьдзел першы:** Грамадзкія клясы Расіі і вайна. I—Пролетарыят і вайна. II—Буржуазія і вайна. III—Армія і вайна. **Разьдзел другі:** Лютаўска-сакавікаўскі (февральско-мартовский) пераварот. I—Пролетарыят і лютаўскія дні. II—Буржуазія і лютаўскія дні. III—Армія і рэволюцыя. IV—Лютаўская рэволюцыя і самаўладзтва. V—Програма буржуазнага ўраду. **Разьдзел трэці:** Грамадзкія клясы і барацьба за ўладу. I—Клясавыя програмы рэволюцыі. II—Барацьба буржуазіі і дэмократыі за ўнешнюю політыку. III—Пытаньне аб уладзе ў дні красавіка. IV—Барацьба за рабочы контроль. V—Барацьба за зямлю і г. д. **Разьдзел чацьверты:** Кастрычнікавая рэволюцыя.

○ **Рыд Джон**. *10 дней, которые потрясли мир*. Кніжка мае прадмовы Н. Леніна і Н. Крупскай. 215 ст.

Прадмова да амэрыканскага выданьня:

Прачытаўшы з вялізарнейшаю цікавасьцю і ня меншаю ўвагаю кнігу Джона Рыда „Десять дней, которые потрясли мир", я ад усяе душы рэкомэндую (раю) гэты твор працоўным усіх краін. Гэту кніжку я хацеў-бы бачыць распаўсюджанай у мільёнах экзэмпляраў і перакладзенай на ўсе мовы, бо яна дае правільны і надзвычайна жыва напісаны ўклад здарэньняў, вельмі каштоўных для разуменьня таго, што такое пролетарская рэволюцыя, што такое дыктатура пролетарыяту. Гэтыя пытаньні ў сучасны момант падлягаюць шырокаму разгляду. Кніжка Джон Рыда, бязумоўна, дапаможа высьветліць гэта пытаньне, якое зьяўляецца асноўнай проблемай сусьветнага рабочага руху.

**Н. Ленін.**

○ **Шляпнікаў**. *Канун семнадцатого года*. Успаміны і дакуманты аб рабочым руху і рэволюцыйным уздыме 1914-1916 г.г. Частка I-я. 2-е выданьне 1923 г., стар. 300. Гэта кніжка дае шмат таму, хто хоча азнаёміцца з рабочым рухам у Расіі і за межамі і ўявіць сабе тыя ўмовы, у якіх падрыхтоўвалася вялікая пролетарская рэволюцыя. Аўтар-рэволюцыянэр у самых яскравых фарбах дае малюнак рэволюцыйнай барацьбы, якую вялі бальшавікі ў часе вайны з С.-Д. абаронствам. Успаміны пачынаюцца з 1914 г. Усё перажытае аўтар дае ў жывых малюнках.

○ **Шляпнікаў А.** *Канун семнадцатого года*. Частка 2-ая. Дзярж. выд, 3-е выданьне 1923 г., стар. 18. Гэта частка ахапляе пэрыод з лістапада 1916 году да канца яго. Малююцца агульныя абставіны барацьбы буржуазіі. Значную частку ў гэтай кнізе займае вялікая колькасьць протоколаў, адозваў, рэзолюцый і г. д., даючы яскравы малюнак політычных абставін таго часу.

**„На пути к восстанию"**. Што пісаў Ільліч перад Кастрычнікам. „Маскоўскі рабочы" 1923 г., стар. 171.

У зборнік увашло 15 артыкулаў У. І. Леніна, якія датычацца пытаньня аб паўстаньні.

**В. Антонаў-Аўсеенка**. Строительство Красной армии в революции". Выд. „Кр. Новь" 1923 г., стар. 59.

Гісторыя організацыі і разьвіцьця Чырвонай арміі. Аўтар закранае політ. прасьвет. працу і намячае чарговыя заданьні ў пабудове Чырвонай арміі. Кніжка напісана популярна.

**Новікаў.—Прибой**. **Зуб за зуб**. Апав. Выд. „Круг" 1923 г., 48 стар. Моманты грамадзянскай вайны ў Сібіры. Годны да чытаньня малападрыхтаванаму чытачу.

**Повесть работницы и крестьянки**. Дзярж. выд. 1920 г., стар. 31.

Два апаяданьні работніцы-друкарніцы: **„Что меня толкнуло в ряды партии"** і сялянкі **„Как я стала борцом за советскую власть"**.

**Дочери революции**. Выд. „Красн. Новь" 1923 г., стар. 160.—Добра ўкладзены зборнік, дае ў некалькіх артыкулах яскравы малюнак тае ролі, якую адыграла жанчына ў пролетарскай рэволюцыі.

# Аб распаўсюджваньні комсамольскага друку

Да сучаснага моманту комсамолец, жадаючы падпісацца на якую-небудзь газэту, рабіў гэта праз мясцком, фабзаўком або непасрэдна праз паштовыя ўстановы.

Кампанія па распаўсюджваньні комсамольскага друку не праводзілася.

Багаты, нават, такія выпадкі, што комсамолец, піонэр ня ведае, якія комсамольскія і піонэрскія газэты і часопісі выдаюцца на Беларусі.

Пры такіх абставінах, усім вядома, што падпіска была малая. Многія вясковыя комсамольскія ячэйкі ня выпісвалі аніводнай комсамольскай газэты. З часопісямі—яшчэ горш.

Такая пастаноўка распаўсюджваньня — нічога ня варта, і яна кажа сама за сябе аб наладжаньні гэтай справы. Неабходна правесьці шырокія кампаніі популярызацыі комсамольскага друку. Неабходна наладзіць вучот падпісчыкаў, каб ведаць, да каго лепш прыстасаваць тую ці іншую часопісь ці газэту.

Па гэтым пытаньні і ЦК РЛКСМ і ЦК ЛКСМБ зрабілі пастановы, якія кажуць за выдзяленьне комсамольскімі ячэйкамі ўпаўнаважаных для распаўсюджваньня комсамольскага друку.

Абавязкамі гэтага ўпаўнаважанага будуць наступныя: сваечасовае напамінаньне комсамольцам аб існаваньні комсамольскіх часопісяй і газэт і аб тым, што на іх трэба падпісацца; збор падпісных грошай і выпіска выданьняў на ўсю ячэйку і апошняе—вучот выпіскі як ячэйкаю цалкам, так і комсамольцамі паасобку.

Карысьць ад такога парадку будзе вялікая, толькі трэба дабіцца таго, каб усе комсамольцы падпісваліся на беларускія комсамольскія часопісі і газэты толькі праз свайго ўпаўнаважанага. Бюро ячэек павінны рэгулярна правяраць работу сваіх упаўнаважаных.

Толькі такім парадкам мы здолеем правільна вырашыць пытаньне распаўсюджваньня комсамольскага друку і дасягнуць найвялікшага тыражу нашых часопісяй і газэт.

Лёзунг: Няма комсамольца без комсамольскай часопісі (газэты), павінен быць выкананы на ўсе 100 процантаў.

В. Вержбаловіч.

## УСІМ ЯЧЭЙКАМ ЛКСМБ.

**Дзеля ажыцьцяўленьня працы па распаўсюджваньні комсамольскага друку ЦК ЛКСМБ прапануе ў кароткі тэрмін правесьці па ячэйках абраньне ўпаўнаважаных па распаўсюджваньню комсамольскага друку, прозьвішча і службовы адрас якіх павінен быць хутка паведамлены ў кантору выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ (Менск, Савецкая вул., д. № 63).**

**Нам. сакратара ЦК ЛКСМБ ЗІМІН.**
**Нам. заг. аддзелу друку КУРЦІК.**

## Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

З прычыны таго, што рэдакцыі прыходзіцца выпісваць (сваім супрацоўнікам-юнкорам) часопісь ці пасылаць літаратуру, а часам і грошы, просім усіх тых, хто пасылае свае допісы ў „Малады Араты“, падпісваць пад кожным дописам правільны свой адрас (паштовае аддзяленьне, раён, акругу, прозьвішча і імя).

**Лабаты** (Беларучы)—Допіс „Сярод піонэраў“ перададзены ў „Чырвоную Зьмену“.

**Фядосцаву** (Балотня)—„Сялянская моладзь і комсамольцы—за фізкультуру“—спазьнілася. Друкавацца ня будзе.. Пішы аб тым, як вы рыхтуецеся да зімовага спорту і наогул да зімовай працы.

**Прыслаўшым допісы аб шэфстве**—Будзе выкарыстана ў адным з чарговых нумароў.

**М. Лубок.** (Заўшычы)—Прысланыя табою допісы пастараемся выдрукаваць. Пішаш ты добра. Рэдакцыя думае, што ты побач з дасылкаю лістоў сур'ёзна возьмешся і за пашырэньне „Маладога Аратага“ сярод свае вясковае моладзі. Аб выніках і перашкодах у працы (калі яны будуць), павінен напісаць у рэдакцыю.

**Вучань Кол.** (Пагост)—Допіс аб коопэратыве будзе выдрукаваны. Пішы аб тым, ці задавальняе наша часопісь вучняў вашай сямігодкі: калі не, дык чаму і што, патвойму, трэба ў ёй паправіць. Пастарайся ў свайой сямігодцы організаваць карэспондэнцкі гурток **„Мал. Аратага“**, аб чым напішы ліст у рэдакцыю.

Рэдактары: **А. Самахвалаў.** **Іл. Барашка.**

1-я дзярж. друк. Зак. № 165—(1000). Галоўлітбел 13.358.

1925 бывшего секретаря ком. организации
Варивончика Николая Захаровича
1926 г. комсомольца активиста и Гарельчина Ивана ...

# За пашырэньне „Маладога Аратага“.

**Мы выклікаем:**

**М. Нікановіч**, вясковы маладняковец, выпісваю для сваёй вёскі Клянік, Смалявіцкага раёну 10 экзэмпляраў часопісі **„Малады Араты“** на 3 месяцы і выклікаю зрабіць гэтае самае наступных таварышоў: П. Рагачэўскага, А. Матусэвіча, Кузьму Чорнага, Р. Шукевіча-Трацьцякова (рэдак. „Бел. Вёскі“), Я. Пашковіча, А. Бабарэку, Ал. Дудара, Н. Чарнушэвіча, І. Шыпілу (рэдак. „Сав. Бел.“), Шульмана, Праўдзіна, Валынскага, Ганулю Шувалаву (рэдак. „Звезда“), Максіма Залётнага, А. М. Курціка (рэдак. „Чырвон. Зьмена“), Язэпа Пушчу, Анатоля Вольнага, М. Зарэцкага, Ул. Дубоўку, Паўлюка Труса, (сябры Менск. філіі „Маладняк“), А. Сушко, П. Ратайку, Юрасава, Я. Матусэвіча, Валасэвіча (сябры Смалявіцкага РВК), Марысю Вронскую (наст. Градкі), Зосю Мурашку (м. Смалявічы), У. Мурашку (старш. Кляніцкага с/с), Іг. Дубка (в. Сяргеевічы), Іл. Барашку, А. Самахвалава (рэд. „Малады Араты“), Якуба Коласа, Янку Купалу, Цішку Гартнага (Інбелкульт), Зьмітрака Бядулю і А. Александровіча.

**Залётны М.**—Адказваючы на вызаў т. Нікановіча М., выпісваю для роднай вёскі Блонь, Пухавіцкага раёну, Менскай вакругі 5 экзэмпляраў часопісі „Малады Араты“ на 3 месяцы і вызываю наступных таварышоў зрабіць тое самае:

Нахімоўскую М. (рэдакцыя „Піонэр Векер“), Сучкову Алесю, Гольдбэрга Міхася (рэдакцыя „Чырвонай Зьмены“), старшыню Блонскага сельсавету, усіх настаўнікаў Пухавіцкага раёну, Блонскую, Навасёлкаўскую, Марына-Горскую (тэхнікуму і пасёлку), Вяленьскую ячэйкі комсамолу, С. Шушкевіча, Нічыпара Няхая (ЦВК), Параску Чубкову, Аўдоцьцю Апарцаву, Я. Туміловіча, Яворскага (БДУ), Прышчэпа Міну, Прышчэпа Грахіма, Крэсіка Янку, Лубачкіну Алесю, Хрэнаву Мар'ю, Раманоўскага Янку, Пісарчыка (пошта), Падаляк Аўдоцьцю (пасёлак Рудзенск), Барысевіча Бладзю, Лукашонка Міхася (вёска Пятровічы, Сьмілаўскага раёну), Коласа Усевалада, Разенгаўза М., Разенгаўза Б. (Чэрвенскі раён). Другім разам выпішу больш і больш вызаву.

**С. Шушкевіч**—Па вызаву Залётнага Максіма выпісваю для пасёлка „Чырвонага“ 3 экзэмпляры „Маладога Аратага“ на тры месяцы і выклікаю выпісаць не па менш наступных т. т.: Качынскага, М. Ланэўскага, М. Клімовіча (Сеніцкая яч. ЛКСМБ), А Карпіловіча і П. Капаевіча (Сеніцкая яч. КПБ).

**Іл. Барашка**—Адказваючы на вызаў М. Нікановіча, выпісваю 10 экз. „Маладога Аратага“ на тры м-цы, з такім разьлікам: для ячэйкі ЛКСМБ в. Жодзіна—5 экз. і для ячэйкі ЛКСМБ в. Сяргеевічы таксама 5 экз.; выклікаю: сяброў Менскай, Віцебскай, Магілеўскай, Мазырскай, Аршанскай, Барысаўскай, Бабруйскай, Полацкай, Слуцкай і Клімавіцкай філій „Маладняка“—кожнага паасобку.

**Жлобіч Рыгор**—Выпісваю для вясковай моладзі часопісь „Малады Араты“ 3 экзэмпляры на лістапад—сьнежань м-цы і ў сваю чаргу вызываю наступных сяброў: Я. Садоўскага (гор. Менск), Янку Доўнара, Янку Крывіцкага, А. Сьцежку, І. Чумака, В. Ковель (Блускага с/с), а таксама: Доўнара, А., Н. Іовіча, Доўнара В., С. Доўнара (саўхозу „Молат“), П. Кульбіцкага, М. Шапялевіча, П. Рабога (вёска Блужа), В. Размысловіча, О. Ваўчка, Ніціеўскага (пасёлак Угодзіна) і ячэйку ЛКСМБ ур. Падзяхцярня,

**Павялічэньне тыражу часопісі прынясе чытачу—палепшаньне тэхнікі выданьня, павялічэньне формату „МАЛАДОГА АРАТАГА“.**

**Беларуская сялянская моладзь, вучні, вясковыя комсамольцы—адказвайце на вызавы, выклікайце сваіх таварышоў на выпіску сваёй ЧАСОПІСІ.**

Для вас **„Малады Араты“**— гэта першы настаўнік у галіне азнаямленьня з працоўнай беларускай культурай, найлепшы барацьбіт з вясковаю цемраю за палепшаньне Вашага дабрабыту.

## З Ь М Е С Т.

Аб правядзеньні Кастрычніка. **Д. Ратнэр.** Ленін і Кастрычнік—**Іл. Барашка.** Як зрабілася Кастрычнікавая рэволюцыя. Ленінскі Комсамол Беларусі да 8-й гадавіны Кастрычнікавай Рэволюцыі—**М. З.** Што дала Кастрычнікавая Рэволюцыя нацыянальнасьцям—**С. Дзіманштэйн.** Восьмая—**А. Бабарэка.** Кастрычнік—**А. Гурло.** Сьвята працоўных—**Паўлюк Трус.** Вёска раней і цяпер. Міхейка „Гультай“. Вугольчыкі Рэволюцыі—**Б. Сьмір.** Як працаваць над п'есаю. Вёска ў песьнях і частушках. Што чытаць пра Кастрычнік. Аб распаўсюджваньні комсамольскага друку. Перапіска з супрацоўнікамі. За пашырэньне „Мал. Ар.“

468

ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

і

ЧЫТАЙЦЕ

двухтыднёвую часопісь

сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“



ОРГАН

Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.



Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:

на 1 месяц 15 кап.
на 3 месяцы 45 кап.
на 6 месяцаў 90 кап.



**Падпіска прымаецца**

ў Менску Контрагентствам друку (Савецкая 63)

і ў провінцыі—усімі аддзяленьнямі Бел. Дзярж. Выдавецтва, агентамі і ўпоўнаважанымі, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.



„МАЛАДЫ АРАТЫ“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб **політыцы**. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае парады сялянскай моладзі, у **каго вывучыцца**, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—вядзе барацьбу за **новую вёску**, змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—для сялянскае моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках, як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.